# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 39 (604) ГОД XII 24 ВЕРАСНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ГП БГКТ

**4 верасня г.г. адбылося першае, пасля летняга перапынку, пасяджэнне Прэзідыум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Члены Прэзідыум ГП БГКТ абмеркавалі на ім наступныя пытанні: святкаванне 50-тай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, план працы на восень і праект бюджэту на 1968 год. У сувязі з кастрычніцкімі святкаваннямі, між іншым, пастаноўлена наладзіць у гуртках БГКТ 90 акадэмій. Гэтай знамянальнай даце будзе прысвечана таксама ўрачыстае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ, якое адбудзецца 5 лістапада г.г. Удзельнікі пленум прымуць удзел у аглядзе беларускіх хораў, які з нагоды Кастрычніцкай рэвалюцыі будзе праведзены 5 лістапада ў памяшканні ГП БГКТ.**

**Да канца гэтага года Прэзідыум ГП БГКТ запланаваў: правесці 7 канферэнцый у аддзелах Таварыства, падрыхтаваць і перадаць 60 радыёгутарак, правесці 100 гутарак перад рознымі культурнымі мерапрыемствамі, ладжанымі БГКТ і даць на вёсцы 70 дакладаў. Пастаноўлена таксама ў гэтым годзе арганізаваць 25 аўтарскіх сустрэч членаў літаратурнага аб'яднання «Белавежа», правесці 8 розных конкурсаў і даць 66 канцэртаў эстрады «Лявоніха».**

**У праекце бюджэта на наступны год, між іншым, прадбачваецца выпрацаваць уласныя даходы на суму 400 тыс. зл.**

**Апрача гэтых пытанняў, удзельнікі пасяджэння шмат увагі ўдзялілі пытанню палепшання ўмоў для дзейнасці нашага музея ў Белавежы, які ўжо і за цесны і не гарантуе сабраным экспанатам забеспячэння перад знішчэннем.** (рл)



У Парадні. Доследы руховай спраўнасці глухога дзіцяці.




Ужо дзесяты раз адзначаецца на свеце **Міжнародны дзень глухога** чалавека. У гэтым годзе, так як і ў мінулых гадах, адбудзецца ён у **апошнюю нядзелю верасня.** Шчыра кажучы, тыя, хто нармальна чуюць і не маюць у сям'і каго-небудзь глухога, не адчуваюць і не ўяўляюць гэтага тыпу калецтва. А справа не толькі істотная, што гэтыя людзі — глухія жывуць сярод нас, працуюць, уваходзяць у склад нашага грамадства. І таму неабходна, каб кожны з нас, і не толькі з нагоды Міжнароднага дня, знайшоў час падумаць аб гэтых людзях, а перад усім дзецях, якія міма свайго калецтва не знайшліся пад уласцівай апекай. Наша дзяржава ўсё больш праяўляе цікаўнасць да гэтых людзей і ідзе з дапамогай.

Каб даведацца аб дзейнасці сярод глухіх, мы звярнуліся з пытаннямі да кіраўніка **Парадні Рэабілітацыі дзяцей з вадамі слыху** ў Беластоку **Антона Балейка,** якая змяшчаецца пры вул. Вашынгтона 1.

**— Просім пазнаёміць нашых чытачоў з заданнямі Парадні, якой Вы кіруеце.**

— Коратка гаворачы, нашым заданнем з'яўляецца рэабілітацыя дзяцей з дашкольнага перыяду. Але крыху шырэй аб гэтым трэба сказаць. Дагэтуль было так, што дзіця з вадамі слыху магло пайсці ў школу (для глухіх) пасля аканчэння 7 год. Паколькі ў Польшчы толькі 2 дзетсады для глухіх, практычна малы працэнт дзяцей трапляе ў школу. І наогул трэба сказаць, што глухое дзіця да 7-мі год, а нават даўжэй, аставалася па-за зацікаўленнем грамадскасці. Парадні паклікана на тое, каб не адрываючы глухога дзіцяці ад сям'і, як найраней пачаць вучыць гаварыць і адчытваць мову з вуснаў. Іменна дашкольны перыяд вельмі паглынальны і гарантуе падрыхтоўку дзіцяці да навукі.

**— Ці не лепш было б будаваць школы і дзетсады для глухіх дзяцей?**

— Я асабіста, як і многія іншыя, з'яўляюся праціўнікам гэткай формы развязкі справы. І гэта не з эканамічнага боку, не. Справа ў тым, каб давесці да таго, каб глухое дзіця пачало вучыцца ў нармальнай школе. Спецыяльныя школы для глухіх дзяцей з'яўляюцца свайго роду «гетамі», дзе дзеці знаходзяцца ў асяроддзі такіх жа як і самі, і абсалютна не адчуваюць патрэбы вучыцца гаварыць. А памятаць трэба, што **глухі з'яўляецца нямым не таму, што не можа гаварыць, але таму, што яго не навучылі.** Іменна будучы ў нармальнай школе глухое дзіця вучыцца карыстацца нармальнай людской мовай, а не пры дапамозе жэстаў.

**— А вашы дасягненні?**

— Пачынаючы ад 1964 года (тады паўстала Парадня) мы падрыхтавалі 14 глухіх дзяцей да навукі ў нармальных пачатковых школах. Зараз маем зарэгістраваных 480 дзяцей.

**— Напэўна ў працы маеце і цяжкасці?**

— Найбольш клапоцімся пра тых калекіх дзяцей, якіх бацькі або не ведаюць, або не хочуць карыстаць з лячэння ў нашай Парадні. Найбольш занядбанымі ў гэтым напрамку асяроддзі вясковыя, асабліва з паветаў Гайнаўскага, Бельскага. Здаецца тут так, што глухое дзіця трымаюць дома да 13 года жыцця, маючы надзею, што пачне гаварыць. А калі не, дык тады шукаюць парады, а ў тым узросце ўжо цяжка што-небудзь зрабіць.

**— Што Вы раіце бацькам?**

— Перад усім, каб не адкладвалі гэтых спраў. Ужо калі дзіцяці мінуў год, можна сарыентавацца, як яно рэагуе на розныя тукі. **Калі што-небудзь падазраваецца, дык неабходна звярнуцца да нас да Парадні.** Тут не толькі правядзем адпаведныя доследы, але нашыя спецыялісты (лёкапеда, псіхолаг і лекар) павучаюць маці, як паступаць з такім дзіцём, і гэта дае на многа большую магчымасць поўнай рэабілітацыі глухога дзіцяці.

**— Калі Парадня адкрыта?**

— У кожны (апрача святаў) панядзелак, сераду і пятніцу ад 12—16 гадзін.

**— Усім пачынанням сярод глухіх патрануе ПЗГ, просім некалькі слоў аб яго працы.**

— Польскі Саюз Глухіх у асноўным займаецца справамі, аб якіх я гаварыў, а таксама вядзе працу з узрослымі глухімі арганізуючы ім рознага тыпу «разрыўкі» і т.п. У «тэрэне» налічваем 5 гурткоў ПЗГ м. інш. у Бельску, якія апрача працы з глухімі шырока інфармуюць насельніцтва аб усіх пачынаннях.

**— Чаго жадаеце ад грамадства?**

— Мы, актыў, а таксама і самі глухія жадаюць, **каб над імі не літаваліся, але каб іх разумелі.**

Усім глухім і актыву, які прысвяціў сваю працу так гуманнай і патрэбнай справе з нагоды Міжнароднага Дня Глухога складаем шчырыя пажаданні ўсяго найлепшага.

Размаўляў: **А. Карпюк**
фота: **А. Б.**

## САЛДАТЫ КАСТРЫЧНІКА

У Беластоку ведаюць яго як былога, шматгадовага кіраўніка **Клуба міжнароднай прэсы і кніжкі.** Васіль Літвінчык, як рэдка хто, заваяваў сабе вялікую папулярнасць.

Але тады, у першую сусветную вайну, бегаў ён па Новай Вілейцы яшчэ ў гімназісцкім фрэнчы. Мужыцкі сын з вёскі Збочна, Слонімскага ўезда. Нямногім, такім як ён, удавалася перасягнуць высокія парогі царскіх, ды яшчэ гарадскіх школ.

Летам 1915 года Васілю не давялося палюбавацца канікуламі. Бацькі сабраліся ў далёкую дарогу. Новавілейскі **настаўніцкі семінар** таксама перабазіраваўся ў старажытны горад Невель. Для Ваські Літвінчыка мела гэта на толькі істотнае значэнне, што сустрэў у Невеле **Ульяна Урбана** — таксама гімназіста, які паходзіў з-пад Гродна. Пасябраваў з ім. Урбан давяраў свайму земляку, пазычаў яму кніжкі Леніна, Плеханава, Горкага. Аднойчы запрасіў Васіля на сход вучнёўскага марксісцкага гуртка. Прыехаў нехта з Петраграда, прывёз лістоўкі, брашуры. Так пачаўся новы раздзел у жыцці 18-цігадовага юнака з вёскі Збочна.

У лістападзе 16 года жандары ары-




штавалі Урбана. У настаўніцкім семінары пачаліся доследы, вобыскі. Усе жылі пад страхам. Дзейнасць марксісцкага гуртка спынілася. Усё гэта скончылася тым, што выкінулі з семінара з «воўчым білетам» яшчэ двух вучняў, а Ульян Урбан сядзеў у турме да Лютаўскай рэвалюцыі.

Рабочым і салдатам не хапала хлеба. У той час хлеб быў, яго хавалі багатыя сяляне. Партыя бальшавікоў зараз пасля пераможнай Кастрычніцкай рэвалюцыі загадала абавязковую харчразвёрстку. Тады Васіля накіравалі ў вёскі Дальньскай воласці, каб правесці рэестрацыю харчавых запасаў. Страшэнна небяспечная была гэта работа.

— У аднаго кулака, — успамінае Васіль Літвінчык, — знайшлі мы збожжа закопанае ў яме. Над ямай ён заараў поле і пасеяў жыта. Свінні і авечкі выцягвалі са стагоў сена, з клуняў, дзе змыслова былі замаскаваныя хлеўчыкі. Дапамагалі нам вядома мясцовыя беднякі. Без іх прышлося б хутка ўцякаць з пустымі рукамі.

У лютым 1918 года Васіль Літвінчык атрымаў дыплом настаўніка. Бацькі знаходзіліся ў Сібіры. Дарогу да іх адрэзалі калчакоўскія палкі. Васька паехаў да брата ў Екацерынаслаўль. Тут 1 сакавіка 1918 года атрымаў сваю першую ў жыцці пасаду: **стаў кіраўніком школы для бежанцаў.** Быў шчаслівы, як ніколі больш, хаця было і галадна і холадна. Запісаўся ў камсамол. Быў членам Губерскага і Гарадскога

(Працяг на стар. 4)



**Былы будзённавец Васіль Літвінчык.**
Фота аўтара

## Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ВОДГУКІ НА ВІЗІТ ДЭ ГОЛЯ

Вельмі шырокім рэхам адбіўся афіцыяльны візіт **прэзідэнта дэ Голя** ў Польшчы. Аб ім пісала ўся сусветная прэса. З прычыны недахопу месца раскажам толькі пра некалькі аспектаў гэтай паездкі. У Францыі, даносяць нашыя журналісты, адчуваецца аднамыснае, чуллівае адабрэнне для дэ Голя. Падкрэсліваецца, што і сам прэзідэнт, пасля прыезду на французскім аэрадроме быў узрушаны і выказваў гарачыя ўражанні.

Істотным здаецца быць і тое, што за 9 дзён візіту дэ Голя пасрэдны француз пазнаў Польшчу лепш, як гэта мог зрабіць на працягу 20 год існавання Народнай Польшчы. Трэба мець надзею, што пасля гэтага пабольшыцца і турызм і гандлёвы абмен Францыі з Польшчай. Назіральнікі сцвярджаюць, што многа французаў адкрыла Польшчу як сучасную, развітую краіну. Нічога дзіўнага, прабываючыя ў Парыжы польскія журналісты інфармуюць, што ў часе візіту дэ Голя з парыжскіх газет збіралі па 40 выразкаў аб Польшчы.

Візіт дэ Голя ў Польшчу, а перад усім станоўчасць Францыі ў справе непарушнасці граніцы на Одры і Нысе выклікалі раздражненне ў Бон. Бонскія кіраўнікі ў часе пабыўкі французскага прэзідэнта ў Польшчы не адзін раз падкрэслівалі сваю няўступчывасць у справе еўрапейскай рэчаіснасці.

Падкрэсліваецца і міжнародны аспект візіта. Разыходзіцца тут між іншым пра тое, што добрыя суадносіны Францыі з Польшчай, якія маюць сваю гісторыю, не толькі не пярэчаць, але спрыяюць французска-савецкай дружбе. А гісторыя нам напамінае, што ў часе падзелаў Польшчы як і ў міжваенным перыядзе справа выглядала наадварот.

### ХВОРАЕ ГРАМАДСТВА

Старшыня камісіі заграпічных спраў Сенату ЗША, сенатар Фульбрайт у часопісе Нью Йорк Таймс Магазін змясціў артыкул: «Вялікае грамадства Злучаных Штатаў з'яўляецца хворым грамадствам». Як прыклад прыводзіць ён агромныя лікі. Гаворыцца ў артыкуле, што **ЗША за апошнія 20 год выдалі толькі на ўзбраенне 904.000.000.000.000** (дзевяцьсот чатыры тысячы мільярдаў) долараў. Гэта абазначае 57% усіх даходаў дзяржавы, калі **на навуку, ахову здароўя і сацыяльныя прылады выдана толькі 6% даходаў.**

А. К.

## БССР

### ФРАНЦУЗСКІХ

У сталіцы Беларусі, Мінску, пабывала дэлегацыя французскіх камуністаў на чале з членам Палітбюро ЦК Французскай кампартыі Жоржам Фрышманам.

Гасцей, між іншым, цікавіла роля партыйных арганізацый прамысловых прадпрыемстваў у рэалізацыі эканамічнай рэформы, якая зараз адбываецца ва ўсім Саюзе ССР. Дэлегацыя наведала прамысловыя прадпрыемствы Мінска, а таксама Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балету, які ставіць оперу Д. Вердзі «Трубадур».

### СХОД

У сувязі з 23-яй гадавінай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Балгарыі ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў грамадскасці беларускай сталіцы. У сходзе прыняў удзел сакратар ЦК кампартыі Беларусі С. Пілатовіч, міністр замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіч і іншыя асабістасці беларускага палітычнага і дзяржаўнага жыцця.

З дакладам выступіў намеснік старшыні прэзідыума таварыства «Веды» Беларускай ССР, член праўлення Беларускага аддзялення таварыства савецка-балгарскай дружбы У. Пазняк. Прамову меў маёр балгарскай арміі Г. Тосеў.

На заканчэнне сходу быў паказаны спектакль «Канстанцін Заслонаў».

### ПАМЯЦІ

**Памяці «жалезнага Фэлікса»** пад такім загалоўкам беларускія газеты інфармуюць аб урачыстасцях, звязаных з ушанаваннем памяці Фэлікса Дзяржынскага. У мястэчку Івянец, недалёка ад якога знаходзіцца хутар Дзяржынава — радзіма Дзяржынскага — адбылося ўрачыстае ўскладанне вянкоў ля падножжа помніка.

У Мінску ў скверы ля Камсамольскай вуліцы, дзе знаходзіцца помнік Фэліксу Дзяржынскаму, 11 верасня адбылося ўрачыстае ўскладанне вянкоў, а ўвечары ў клубе імя Ф. Дзяржынскага адбыўся ўрачысты сход грамадскасці сталіцы, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння рыцара рэвалюцыі Фэлікса Дзяржынскага. У сходзе ўдзельнічаў намеснік старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі пры Савеце Міністраў Беларускай ССР І. Лысакоўскі і інш.

### 98-МЫ

Нядаўна наведаў Мінск чарговы, 98-мы поезд дружбы, якім прыбылі турысты з Масквы, Уладзівастока, Куйбышава. Хутка Мінск наведаюць турысты з Арменіі, Растова, Астрахані, Кузбаса. Мінскае экскурсійнае бюро абслужыць сёлета звыш 70 тысяч турыстаў.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ЗАЯВА

У сувязі з заканчэннем афіцыйнага візіта ў Польшчы прэзідэнта Францыі Шарль дэ Голя апублікавана супольную польска-французскую заяву. Падаем коратка яе змест.

У заяве сцвярджаецца, што польскі народ прымаў генерала дэ Голя надзвычай горача. Сведчыць гэта аб тым, як жывыя і трывалыя пачуцці глыбокай дружбы паміж Польскім і Французскім народамі.

Мэтай першага візіта прэзідэнта Францыі ў Польшчы — гаворыцца далей у заяве — было не толькі замацаванне дружбы паміж абодвума народамі, але і сфармуляванне супольных поглядаў на многія справы.

У галіне міжнароднай палітыкі ўзгоднена магчымасць склікання канферэнцыі еўрапейскіх краін у справе бяспекі. Прадметам размоў была таксама сітуацыя ў В'етнаме. Абодва ўрады асуджаюць в'етнамскую вайну. Перакананы яны, што толькі ўстрыманне чужой інтэрвенцыі і паварот да жэнеўскіх пагадненняў з 1954 года змогуць палажыць канец канфлікту і гарантуюць в'етнамскаму народу права да вырашання аб сваім лёсе.

Далейшая частка заявы датычыць спраў пашырэння эканамічнага, навукова-тэхнічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж абедзвюма краінамі. Дзеля ўзмацнення кантактаў паміж Польшчай і Францыяй пастаноўлена, што будуць адбывацца рэгулярныя кантакты ў справах, якія цікавяць абедзве краіны. На заканчэнне заявы сцвярджаецца, што генерал дэ Голь запрасіў Уладзіслава Гамулку, Эдварда Охаба і Юзэфа Цыранкевіча да прыезду з афіцыйным візітам у Францыю. Запрашэнне прынята з задавальненнем. Тэрмін будзе ўстаноўлены пазней дарогаю дыпламатычных суадносін.

### У СЕЙМЕ

У сейме закончыліся спрэчкі над развіццём паслуг. Старшыня камітэта дробнай вытворчасці Уладзімір Ляховіч забіраючы голас між іншым заявіў:

«У час дыскусіі многа паслоў шмат увагі прысвяціла справам паслуг для вясковага насельніцтва. Адказвае гэта ўзрастаючаму запатрабаванню на паслугі на вёсцы і не заўсёды задавальняючаму забеспячэнню гэтага запатрабавання. Трэба згадзіцца з ацэнкай характарыстычных для сённяшняй вёскі працэсаў дынамічнага ўзросту закупкі артыкулаў трывалага карыстання і сельскагаспадарчых машын, дэнатуралізацыі спажыцця, узрастаючага падабенства патрэб вясковага насельніцтва да патрэб насельніцтва гарадоў. Усё гэта патрабуе шырэйшага развіцця паслуг для вёскі, а таксама перагляду актаў праўных у гэтай галіне».

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

Ваяводскае праўленне Лігі абароны краіны ў Беластоку наладзіла агульнакраёвую прэсканферэнцыю. Дзеячы гэтай арганізацыі расказалі журналістам, што грамадскім чынам, дзякуючы ахвярнасці членаў ЛОК, яны пабудавалі: спартыўную базу ў Аўгустове, Дом афіцэраў запаса ў Моньках і прыстань воднага клуба ў Элку. Зараз будуюць: базу прафесіянальнага абучэння для шафёраў у Элку, будынкі для патрэб уласнай арганізацыі ў Дуброве, Высокамазавецку і Кольне. Рыхтуюцца да пабудовы падобных аб'ектаў: у Лапах, Гайнаўцы і Граеве. Ліга масава абсталёўвае тэлефоны ў вёсках. На працягу 1965/1966 гадоў вартасць грамадскага чыну дасягнула амаль 10 мільёнаў злотых.

### ВУЧОНЫЯ І ТОРФ

Польскія і замежныя вучоныя абмяркоўвалі ў Беластоку праблемы дабычы і выкарыстання торфу ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці. Замежныя госці знаёміліся з Беласточкім ваяводствам. Яны даволі высока ацанілі арганізацыю дабычы і выкарыстання торфу на Беласточчыне.

### ГРЫБЫ НА ЭКСПАРТ

З лясоў Гайнаўскага павета адпраўлена ў Англію, Швейцарыю і Заходнюю Нямеччыну 62 тоны свежых і 12 тон салёных плісак.

### КЛУБ САВЕЦКАЙ ПЕСНІ...

...Ваяводскага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы высока ацанілі ваяводскія ўлады. Заквалифікавалі яго ў кандыдаты для цэнтральнай узнагароды.

### МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

У Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку адкрыта выстаўка жывапіснага мастацтва Веслава Юркоўскага. Мастак гэты з'яўляецца радавітым беластачанінам.

### З БЕЛАСТОКА Ў КІНШАСЕ

Настаўнік механічнага тэхнікума ў Беластоку Рышард Лябеда ўжо другі год працуе настаўнікам у афрыканскай краіне Конга. У горадзе Кіншасе вучыць кангійскіх юнакоў тэхнічнаму рысунку і тэхналогіі пабудовы машын.

### САМАГОНШЧЫКІ

У вёсках Орач і Вітыны, Элцкага павета, міліцыя выкрыла двух самагоншчыкаў. У найлепшым выпадку прыдзецца ім заплаціць па 5 тысяч злотых штрафу і пасядзець у турме прынамсі па некалькі месяцаў.




NIEDZIELA, 24.IX.

8.45 Program dnia; 8.50 TV Kurs Rolniczy: „Źródła pasz w gospodarstwie"; 9.25 „Przypominamy, radzimy" — „Remontujemy silosy"; 9.40 „Przedmieścia Leningradu"; 10.20 Dla młodych widzów: „Sport i zabawa"; 11.00 „Minerzy podniebnych dróg" — film tv.; 12.30 Wiadomości dziennika; 12.40 „Koń, który mówi"; 13.10 „Zapomniane filmy"; 14.10 „Teatrzyk dla przedszkolaków"; 14.50 „Przemiany"; 17.05 „Sprawa nieumorzona" — reportaż filmowy; 17.20 Teatrzyk Janusza Osęki; 18.00 „Wieliczka" („Piórkiem i węglem"); 18.40 „K. I. Gałczyński" („Portrety"); 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.05 Finałowy koncert Festiwalu Muzyki Współczesnej „Warszawska Jesień"; ok. 21.00 „Rancho złoczyńców" — film fab. USA; 22.25 „Niedziela Sportowa".

PONIEDZIAŁEK, 25.IX.

15.40 Program dnia; 15.45 Politechnika TV. Geometria wykreślna; 16.25 Politechnika TV: Chemia; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla dzieci: „Bolek i Lolek na wakacjach" — film rysunkowy pol.; 17.10 Dla młodych widzów: „Pod siatką"; 17.30 „Tramp" — magazyn turystyczno-krajoznawczy; 17.50 „Za siedmioma górami" — film; 18.15 TV Magazyn Postępu Technicznego; 18.45 „Kino Krótkich Filmów; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.05 „Próby" — miesięcznik konsumenta; 20.30 Teatr TV: Michel de Ghelderode „Klub kłamców"; ok. 21.30 X Zjazd Pisarzy Ziem Północnych i Zachodnich — rep. filmowy; 22.00 „Totemy i rytmy" — rep. filmowy („Z kamerą po kraju"); 22.15 Dziennik TV; 22.30 Program na jutro; 22.35 Politechnika TV. Geometria wykreślna; 23.05 Politechnika TV. Chemia.

WTOREK, 26.IX.

7.50 „Ucieczka" — film NRD; 10.00 Dla szkół (kl. I) „Na ulicy"; 10.15 Przerwa; 11.00 Dla szkół (kl. IV) „Pogoda na jutro"; 11.20 Przerwa; 11.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski: Stanisław Wyspiański „Wesele"; 12.30 „Przysposobienie Rolnicze"; 13.05 Przerwa; 15.10 „Przysposobienie Rolnicze"; 15.45 Politechnika TV. Matematyka; 16.25 Politechnika TV. Matematyka; 16.55 Wiadomości dziennika tv; 17.00 Dla młodych widzów: „Zrób to sam"; 17.15 Dla młodych widzów: „Co dawniej jadano"; 17.45 „Telekram"; 17.55 „Wiem wszystko" — teleturniej; 18.25 „Gorąca linia"; 19.05 TV Kurier Warszawski; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Ucieczka" — film NRD; 21.50 Z cyklu: „Profile kultury" film pt. „Konin"; 22.25 Dziennik TV; 22.40 Program na jutro; 22.45 Politechnika TV. Matematyka; 23.15 Politechnika TV. Matematyka.

ŚRODA, 27.IX.

9.30 „Szkolna miłość" — film fab. CSRS; 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie: „Z wizytą w Sejmie PRL"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Fizyka: „Zjawiska świetlne"; 12.25 Przerwa; 15.40 Program dnia; 15.45 Politechnika TV; 16.25 Politechnika TV; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla dzieci: ,Figle Pimpusia" — film ang.; 17.10 PKF; 17.20 „Nie tylko dla pań"; 17.45 Wszechnica TV: „Jan Leon Hipolit Kozietulski"; 18.15 „Aforyzmy, apostrofy, autografy" — program muzyczny; 18.40 „Pod znakiem jakości"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.05 Film krótkometrażowy; 20.20 Studio 63: „Haftowane osty"; 21.10 „Światowid"; 21.40 „Dr Moon" — film tv USA; 22.30 Dziennik TV; 22.45 Program na jutro; 22.50 Politechnika TV. Matematyka: „Wyznaczniki"; 23.20 Politechnika TV. Matematyka.

CZWARTEK, 28.IX.

9.55 Dla szkół (kl. VIII) Historia — „Pierwsza Wojna Światowa"; 10.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół (kl. VII) Język polski: „Jan Kochanowski"; 12.25 Przerwa; 15.40 Program dnia; 15.45 Politechnika TV. Fizyka; 16.25 Politechnika TV. Fizyka; 16.55 Wiadomości dziennika tv; 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś"; 17.15 Dla młodych widzów: „Fizyka na piątkę"; 17.45 „Wakacyjne przygody" — film fab. radz.; 18.40 „Czwarta zmiana"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.05 „Rybacy i Yport" — film Tele-Aru; 20.20 Teatr „Kobra": Ernest Dudley i Arthur Watkyn: „Doktor Morelle"; ok. 21.20 „Refleksje"; 21.50 Dziennik TV; 22.05 Program na jutro; 22.10 Politechnika TV. Fizyka; 22.40 Politechnika TV. Fizyka.

PIĄTEK, 29.IX.

9.55 Dla szkół (kl. licealne) Wychowanie obywatelskie: „Magazyn aktualności Panorama"; 10.25 „Alba Regia" — film fab. węg.; 12.00 Przerwa; 15.25 Program dnia; 15.30 Mistrzostwa Europy w koszykówce. Mecz Polska — Hiszpania; 17.00 Wiadomości dziennika tv; 17.05 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.20 „Gorzkie jak jod"; 17.50 „Sąd ostateczny" — film tv pol.; 18.15 Wszechnica TV: „Za kierownicą"; 18.45 „Karykatury Stanisława Mrowińskiego"; 19.05 TV Kurier Mazowiecki; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.05 Teatr TV: „Ziemia obiecana" — widowisko tv wg. powieści Wł. Reymonta; ok. 21.35 „10 minut recenzji"; 21.45 Magazyn Medyczny; 22.15 Dziennik TV; 22.30 Program na jutro; 22.35 Politechnika TV. Matematyka; 23.05 Politechnika TV. Matematyka.

SOBOTA, 30.IX.

9.55 Dla szkół (kl. VII) Geografia: „Strefy klimatyczna-roślinne Europy"; 10.25 „Czarny rynek w Paryżu" — film fab. fr.; 11.45 Przerwa; 14.00 „Tutaj wykuwa się talenty"; 14.50 Przerwa; 15.55 Program dnia; 16.00 TV Kurs Rolniczy: „Rola pasz węglowodanowych w gospodarowaniu białkiem"; 16.35 Program Tygodnia; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla młodych widzów: „Konkurs pięciu milionów"; 18.00 „Świat, który nie może zginąć" — film; 18.30 „Tele-Echo"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.10 „Ojciec" — film tv pol.; 20.40 „Divertimento op. 6: „Figle sklerozy"; 21.30 Dziennik TV; 21.45 Wiadomości sportowe; 21.55 „Czarny rynek w Paryżu" — film fab. fr.




22 września, piątek.

14.45 Program; 14.50 Wydarzenia dnia; 15.00 Język angielski dla najmłodszych; 15.20 Białoruscy literaci — Ciszka Hartny; 16.00 Nowości TV; 16.35 Tezy KC KPZR; 16.50 Film „U boku was"; 18.00 Nowości; 19.10 Sport; 20.00 Poezja.

23 września, sobota.

6.00 Program dla studentów — Technologia metali; 6.30 Fizyka; 7.00 Matematyka wyższa; 7.30 Teoretyczna mechanika; 8.00 Gimnastyka dla wszystkich; 8.30 Dla studentów z technikum. Detale maszyn; 9.00 Język angielski dla najmłodszych; 9.20 Szkolna filmoteka. Film „Zmartwychwstanie" (II seria); 12.10 Program; 12.15 Wydarzenia dnia; 12.20 Z pomocą dla ruchu amatorskiego. Spotkanie ze specjalistami teatru; 13.00 „Wiedza". Program naukowo-poznawczy; 13.30 Historia fabryk rok 1927; O mińskiej fabryce „Udarnik"; 14.00 „Fakty — rzecz uparta"; 14.30 Dni RSFSR w Moskwie. Przemysł; 15.00 Klub kinopodróżników; 16.00 Nowości TV; 16.20 „Kronika półwiecza". Film dokumentalny. Rok 1938; 17.20 — EKSPO-67; 17.30 Dni RSFSR w Moskwie. Koncert estradowy; 18.30 Nowości TV; 19.00 Satyra telewizyjna; 19.15 Film. Wydarzenia w pociągu.

24 września, niedziela.

7.55 Program; 8.00 Budzik; 8.35 Program dla młodzieży szkolnej. Wszechzwiązkowy festiwal telewizyjny twórczości dziecięcej; 9.00 „Dzień artystki". Twórczy portret ludowej artystki RSFSR W. Spierantowej; 9.40 Podleningradzkie miasteczko (Miasteczko Puszkin); 10.10 Do 50 rocznicy władzy radzieckiej; 10.30 Białe i czarne. Klub szachowy; 10.50 Dla najmłodszych. Spektakl teatru kukiełkowego; 11.30 Program dla młodzieży szkolnej. Półfinał na dziecięcych igrzyskach sportowych. Mińsk. 12.30 Stalowe muskuły maszyn; 13.10 Kiosk muzyczny; 13.40 Dni RSFSR w Moskwie; 14.30 Światło i cienie. Program międzynarodowy; 15.00 W efirze „Młodość" Odesa i Siehed — miasta spokrewnione; 17.00 Kronika półwieku. Rok 1939; 18.00 Piłka nożna; 18.45 Nowości TV; 19.00 Teatr „Irża"; 19.40 Koncert piosenki radzieckiej.




## ПЫШНАСЦЬ КІЕЎСКАЙ РУСІ ПРЫ УЛАДЗІМІРЫ І ЯРАСЛАВЕ

Кіеўская Русь у часы панавання князёў Уладзіміра (980—1015) і яго сына Яраслава (1036—1054) была самай абшырнай і адной з магутнейшых дзяржаў у Еўропе.

Ва ўсёй краіне ладзілася мірнае і спакойнае жыццё. Гэта спрыяла развіццю сельскай гаспадаркі, рамяства, гандлю і культуры. Сяляне абраблялі болей зямлі, шырока распаўсюджвалася трохпольная сістэма земляробства. Ралло ўжо не капалі матыкай, але аралі сахою з жалезнымі сашнікамі. Збожжа збіралі сярпом і касою. На палях вырошчвалі жыта, пшаніцу, ячмень, авёс, проса, гарох: а ў агародах буракі, капусту, цыбулю. Буйна развіваецца жывёлагадоўля. Такія занятакі, як: паляванне, рыбная лоўля, бортнічаства станавілася ўжо дапаможнымі або дадатковымі занятакамі. Людзі палявалі на тураў, зуброў, ласёў, дзікаў, мядзведзяў, зайцаў, казуль пры дапамозе лукаў і розных сецяў. Апрача асноўных прац у полі і пры дабытку сяляне самі рыхтавалі патрэбныя прылады працы, ткалі сукно і кужаль, шылі адзенне і абутак.

Хутка разрасталіся старыя гарады і паўставалі новыя. Яны станавіліся цэнтрамі рамяства і гандлю. Вучоныя-археолагі ў часе раскопак старажытных гарадоў у Мінску, Полацку, Пінску, Тураве, Ваўкавыску, Гродне выявілі, што рамеснікі гэтых гарадоў выраблялі шматлікія прылады працы, зброю і прадметы штодзённага ўжытку. Асабліва паспяхова развівалася кавальства і выраб рэчаў з жалеза і сталі. У асноўным гарадскія рамеснікі збывалі свае вырабы на кірмашах навакольным сялянам. Пры продажы рамеснікі атрымоўвалі плату ў натуры — прадуктамі з сельскай гаспадаркі. Значную частку вырабаў набывалі ад рамеснікаў купцы і вывозілі іх не толькі ў іншыя гарады Кіеўскай Русі, але і па-за яе межы.

Спакой і бяспека таксама спрыялі развіццю гандлю. Цераз беларускія землі праходзілі тады вялікія міжнародныя гандлёвыя шляхі. Старажытны гандлёвы шлях з поўначы на поўдзень (з Балтыйскага мора па рэках Заходняй Дзвіны і Дняпру ў Чорнае мора) злучаў не толькі паасобныя землі Кіеўскай Русі, але і вёў у краіны над Балтыйскім і Чорным марамі. Другі не менш важны шлях праходзіў з усходу на захад (з арабскіх краін цераз беларускія землі ў Польшчу і іншыя заходнія дзяржавы). Наколькі рухлівы быў гэты шлях сведчаць знойдзеныя ў пагранічным горадзе Драгічыне над Бугам тысячы пломбаў і іншых знакаў, якімі мецілiся тавары, што вывозіліся з Кіеўскай Русі або ўвозіліся ў яе з-за мяжы. Купцы з Кіеўскай Русі вывозілі дарагія футры, мёд, воск, нявольнікаў; прывозілі розныя металы і дарагія тканіны.

У гарадах і селішчах пашыралася больш трывалае і выгоднае для людзей будаўніцтва. Горад у той час складаўся з цэнтральнай часткі — дзядзінца, які быў умацаваны сценамі, вежамі і абкапаны глыбокім ровам. У ім жыў князь, баяры, дружыннікі, заможныя купцы і царкоўнае старшынства. Вакол дзядзінца знаходзіліся рамесніцкія пасады, у якіх жылі рамеснікі і іншы працоўны люд. У часе небяспекі насельніцтва з навакольных сёлаў і рамесніцкіх пасадаў хавалася за ўмацаванні дзядзінца і адтуль баранілася ад ворагаў.

Кіеўская Русь славілася мастацкімі вырабамі рамеснікаў і творамі мастакоў. У гарадах уводзіліся мураваныя будынкі, асабліва прыгожымі былі царквы ў Кіеве, Полацку і ў Ноўгарадзе. Іх будавалі мясцовыя муляры і дойліды, упрыгожвалі жывапісам, мазаікай і разьбой свае мастакі.

Складваліся шматлікія легенды, быліны і песні, у якіх народ услаўляў сваіх продкаў, адвагу вояў, працавітасць і сілу простых людзей, іх любоў да свае радзімы і гатоўнасць абараняць яе граніцы ад ворагаў. Перадаваліся гэтыя творы з вуснаў у вусны, старэйшым пакаленнем малодшаму.

Побач з вуснай творчасцю паўставалі пісьмовыя літаратурныя творы. Усходнія славяне мелі сваё пісьмо яшчэ задоўга да ўвядзення хрысціянства і карысталіся ім у зносінах з іншымі дзяржавамі і ў штодзённым жыцці. Разам з хрысціянствам прыйшла ў Кіеўскую Русь вялікая колькасць адукаваных свяшчэннікаў і манахаў. Яны засноўвалі пры царквах і манастырах школы, у якіх рыхтавалі дзяцей з заможных сем'яў да службы ў царквах і на дзяржаўных пасадах, вучылі іх граматы. Быў прыняты кірылаўскі алфавіт, які ўжываецца ўсходнімі славянамі з невялікімі зменамі і па сённяшні дзень. Пачало разгортвацца тлумачэнне з грэчаскай мовы царкоўных, а затым і свецкіх кніг. Паўставалі і арыгінальныя творы. Самым буйным з іх быў летапіс «Повесць врэменных лет», у якім прадстаўлены важнейшыя падзеі, паходы князёў, жыццё і побыт людзей усходняй Славяншчыны.

Склаўшыяся грамадскія адносіны ў дзяржаве былі замацаваны ў законах, сабраных і спісаных у зборніках «Руская праўда». Паводле гэтых законаў вырашаліся ўсе маёмасныя і іншыя справы ва ўсёй Кіеўскай Русі.

Вельмі блізкія адносіны склаліся паміж Кіеўскай Руссю і Польшчай. Часта князі Кіеўскай Русі і Польшчы былі ў сваяцтве. Князь Яраслаў некалькі разоў хадзіў са сваімі дружынамі ў дапамогу князю польскаму Казіміру ў часе, калі той змагаўся за ўз'яднанне польскіх зямель у адну самастойную дзяржаву.

*ПЫТАННІ І ЗАДАННІ:*

*1. Раскажыце аб развіцці сельскай гаспадаркі, рамяства і гандлю ў Кіеўскай Русі.*

*2. Як развівалася культура ў Кіеўскай дзяржаве?*

*3. Як называліся летапіс і збор законаў, якія былі складзены ў Кіеўскай Русі?*

*4. Раскажыце аб адносінах паміж Кіеўскай Руссю і Польшчай.*




Словы рускай песні аб вадзе аказваюцца зусім неактуальнымі, напрыклад, у Гайнаўскім павеце. Як бы каму не здавалася дзіўным, але даць вёсцы ваду, трэба весці прадуманую і планаваную акцыю.

Справа забеспячэння вёскі ў ваду актуальная з розных прычын. Многія вёскі ўжо зараз адчуваюць недахоп вады. З інвентарызацыі калодзежаў праведзенай у 1964 годзе ў Гайнаўскім павеце вынікае, што на 157 вёсак 49 адчувала недахоп вады. Нярэдка здараецца, што калісьці ў калодзежах данай вёскі вады хапала, а зараз колькасць яе паменшылася, а часам адчуваецца і недахоп. Аказваецца, што прычынай гэтага з'яўляецца сістэматычнае абніжанне ўзроўню вады. Гэта камплікуе не толькі справы звязаныя з гігіенай вёскі, пажарнай бяспекай, але і харчаваннем, тым больш, што ўрбанізацыя, сучаснасць арганізацыі і ўтрымання сельскай гаспадаркі патрабуюць на многа больш вады, чым патрабавалася дагэтуль.

Як развяжацца гэтую справу? У Гайнаўскім павеце Прэзідыум ПРН апрацаваў праграму забеспячэння сельскай гаспадаркі і вёсак у ваду на 1967—70 гады. Прадбачваецца пачаць пабудову калодзежаў і водаправодаў у мясцовасцях, якія адчуваюць найбольшы недахоп вады: Белавежа, Чаромуха, Чыжы, Дубіны, Кленікі, Кляшчэлі, Старое Ляўкова, Нарва, Нараўка і Новаберазова. Паводле плана прадбачваецца **пабудова водаправодаў** у 9 мясцовасцях. Найдаўжэйшы водаправод прадбачваецца ў Кляшчэлях 3.500 метраў, а яго кошт вынясе 1.400.000 зл. Пабудову прадугледжваецца на 1969 год. У Нараўцы водаправод даўжынёй 2.000 метраў на 1973 г., у Старакорніне на 1972 г. (1.500 метраў), у Вялікіх Тыневічах на 1971 год (1.500 метраў) і іншыя.

Зразумела, што вышэй прыведзеныя даныя — гэта план загаспадаравання, які застаецца на паперы, хаця ў многіх мясцовасцях ужо праведзена адпаведную працу, калі разыходзіцца аб пошукі вады. Рэалізацыя яго будзе залежыць ад людзей і не толькі тых, якія сядзяць за «бюркамі», але саміх жыхароў, дзе будуць праводзіць такія інвестыцыі. На гэта дзяржава прадбачыла не мала грошай, але кірункі рэалізацыі праграмы гавораць і аб грашовым удзеле саміх жыхароў вёсак. Будуць арганізаваны т. зв. водаправодныя суполкі і аб'яднанні, якіх заданне — дапамога ў праведзенні так вялікіх інвестыцый. Найбольшая роля суполак і аб'яднанняў — гэта абеспячэнне фінансавага ўкладу насельніцтва. Неабходна памятаць, што ў многіх вёсках існуюць рознага тыпу прадпрыемствы, якія таксама актыўна павінны ўдзельнічаць у коштах пабудовы. Адным словам, трэба ствараць атмасферу адзінства.

Пішам аб гэтым таму, што часу асталося нямнога, а да так вялікай інвестыцыі трэба падрыхтавацца. Падрыхтоўка павінна **быць** не толькі маральная, але, як мы бачым, і фінансавая, што мае таксама значэнне ў гаспадарцы. Здаецца, што, так як і ў пачатках электрыфікацыі, многія не захочуць уводзіць ваду, каб потым прасіць і маліць аб увядзенне, што на хуткасць выканання мае ўплыў.

Адным словам спяваючы ці слухаючы песню «Вада, вада...», трэба некаторым гаспадарам некаторых мясцовасцей і іх арганізацыям улажыць сваю вясковую праграму — план. Гэта напэўна выйдзе на карысць усім. А.К.

## КУЗНІЦКІЯ НЕДАГЛЯДЫ

Кузніца харашэе, яе вуліцы атрымоўваюць гладкую паверхню — мястэчка набывае гарадскога выгляду. Так і павінна быць у гэтай мясцовасці, якая з'яўляецца візітнай картачкай Польшчы. Кузніцу аглядаюць дзень у дзень сотні турыстаў, што прыязджаюць да нас з Савецкага Саюза, або едуць у Савецкі Саюз.

У Кузніцы прыгожы Грамадскі дом культуры, у якім чысціня і парадак. Шкада, што будаўнікі гэтага дома добра не перадумалі сваёй справы і «забылі» аб запланаванні памяшкання для бібліятэкі, якая месціцца ў хілай і цеснай вясковай хаце. Прытым адкрыта яна не штодзень, не гаворачы ўжо аб тым, што ў гэтай бібліятэцы ўвогуле няма беларускіх часопісаў і кніжак.

Госці з Беларусі, што прыязджаюць у Польшчу праз Кузніцу, вельмі цікавяцца беларускім тыднёвікам «Ніва». Аднак у кіёск на Кузніцкай станцыі дасылаецца ўсяго адзін экземпляр «Нівы», які мамантальна выкупляюць. У іншым кузніцкім кіёску «Руху» наша «Ніва» настолькі дакладна занядбаная, што можна тут знайсці нумары нашага часопіса нават з месяца чэрвеня. Можна знайсці, вядома, пад прылаўкам.

Іншая непрыемная з'ява, гэта нешанаванне гасцей. Далёка не ўсе госці разумеюць польскую мову — рускія, чэхі, венгры, немцы. Тым часам інфармацыя ў білетнай касе адбываецца выключна па-польску і толькі дзякуючы ветлівасці некаторых працаўнікоў мясцовай чыгункі, якія пры аказіі перакладаюць на беларускую або рускую мову інфармацыю атрыманую ў касе, госці могуць зразумець, што да іх гаворыцца.

Бо аб прыгожасці Кузніцы павінны сведчыць не толькі гладкія вуліцы і стройныя будынкі...

**(С.Я.)**



Восень на полі. Фота: Я. Цялушэцкі.

# ТРЫБУНА чытачоў

## МАЛОЧНЫЯ ВЫРАБЫ НА ЭКСПАРТ

Беластоцкае ваяводства знаходзіцца ў ліку 5 акругаў у Польшчы, якіх вытыпавана да экспарту малочных вырабаў. Міма таго, што загранічныя пакупнікі ставяць штораз больш вострыя вымаганні, беластоцкія малачарні ў экспарце маюць дасягненні. У мінулым годзе выпрадукавалі яны масла аб высокім сусветным стандарце, якое закупіла Канада.

Адказныя працаўнікі малачарскіх спулдзельні гаворадь, што экспарт масла можна было б далёка перавысіць, але спыняюць гэта малыя ліміты.

Найбольш масла на экспарт высылае малачарня ў Бельску — 209,9 і ў Гайнаўцы — 109,6, а сыраў 27,6 тон (лікі адносяцца да 1966 года).

(ак)

## ПЛЁСКІ БУДУЮЦЦА

Вёска Плёскі даволі вялікая. Жыве тут больш 200 гаспадароў. У апошнім часе Плёскі пачалі разбудоўвацца. Штогод знікаюць драўляныя будынкі, крытыя саломай. На іх месцы растуць новыя цагляныя. Вёска робіцца прыгажэйшая. У гэтым годзе ў Плёсках выбудавана 5 новых цагляных дамоў. Адным словам, вёска Плёскі аднаўляецца.

Тэкст і фота **Л. Леанюк**
Плёскі



**Такіх хат ужо нямнога.**



**Калі хто будуе дом, дык вось такі — мураваны.**

## А. ГРЫЦУК РАСКАЗВАЕ



**Аляксандр Грыцук.**

Вясковы старажыла 95-гадовы жыхар Міхноўкі, што на Гайнаўшчыне, Аляксандр Грыцук вельмі цікавы чалавек.

Нарадзіўся ён тут, у Міхноўцы, у 1872 годзе, працуе земляробам па сённяшні дзень, хаця ўжо ўсё менш інтэнсіўна.

У Аляксандра Грыцука былі цікавыя тадышнія, старыя прылады працы і іншыя рэчы. Дагэтуль захавалася яшчэ дубовая бочка шырынёю да 2 м, дзе калісьці сыпаў збожжа. Да апошняй вайны, пакуль немцы не знішчылі, быў у яго велізарны рузвэрак на пас, з драўлянымі шасцярнямі і колам у 5 метраў. Немцы аднойчы палічылі яго за кулямёт і знішчылі.

У мяне з Аляксандрам, 95-гадовым дзядулем завязалася даўжэйшая гутарка. Расказваў ён аб тым, як раней хадзіў на паляванне. А палявалі тады на лісаў, цецерукоў, ласёў (пераважна ў ваколіцы Лазовае). Аляксандр не раз на снезе праз усю доўгую ноч праседжваў у засадзе. І ніколі не вяртаўся да хаты з пустымі рукамі. Не раз прыносіў воўчыя скуры. А ваўкоў было тады багата.

Аляксандр Грыцук любіць расказваць аб страхах. Даказвае ён усур'ёз аб розных пачварах, звярах-страшыдлах і т.д.

— Я свайго часу вазіў у Беласток прадаваць бутэлькі з нараўскай гуты. Аднойчы вяртаўся я назад праз густы алешнік, раптам на дарогу выбег велізарны чорны бык. Адтуль, дзе ён паявіўся, пачынаўся зараз жа церамкоўскі лес. Мне стала страшна, — кажа Аляксандр. — Я моцна тузануў кабылу, якая з'ежыўшыся галопам ірванула ўперад у напрамку Міхноўкі. Тады бык забег наперад і ўсім цяжарам свайго аграмаднага цела пачаў спіхаць яе на балота, дзе была зусім вузкая прасека, дзе лёгка было праваліцца ў балота і дзе не раз загразаў дабытак і не можна было прыйсці яму з дапамогаю. Бык пасля знік, але, як гэта зафіксаваць сабе змог Аляксандр, доўга яшчэ нешта дзікае рагатала ў лазняках, хадзіла ходырам, мычала. Грыцук трохі верыць у тое, што ёсць страшыдлы.

Тэкст і фота: **Янка Цялушэцкі**

## ТРЭБА ПАДЦЯГНУЦЦА

На адным са сваіх пасяджэнняў Прэзідыум ПРН у Бельску аналізаваў працу грамадскага бюро ў Галадах. Аказалася, што нясе яно недастатковую дапамогу радным і членам паасобных камісій. У **Галадах** назіраецца неахайную арганізацыйную дапамогу штатных працаўнікоў, у перасцераганні рэалізацыі планаў працы рады і камісіі не пільнуецца падрыхтоўкі матэрыялаў на пасяджэнні камісіі і, што часам пахне скандалам, не сочыцца за рэалізацыяй пастаноў і вывадаў гэтых жа органаў.

Гэта таксама адбіваецца і на непасрэдным абслугоўванні грамадзян. Многія справы ў галадоўскім ГРН пралежвалі на многа больш часу, чым гэта прадбачвае кадэкс адміністрацыйнага працэсу.

Спадзяемся, што ўказанні Прэзідыум ПРН прычыніліся да таго, што ў Галадах прынята адпаведныя меры ў справе палепшання працы. (ак)

## ДУЭТ З ПІЛІК

Янка Врублеўскі і Антоні Ясюк з вёскі Пілікі (Бельшчына) з'яўляюцца членамі вакальна-харавога калектыву, які існуе пры мясцовай святліцы.

Савецкія і польскія песні, якія выконвае гэты дуэт, карыстаюцца вялікім поспехам. Нядаўна на павятовых дажынках у Страблі атрымалі яны многа апладысментаў. Варта ўспомніць, што на ваяводскіх аглядах у гадах 1963 — 64 — 65 і 66 займалі яны першае месца.



Тэкст і фота З.П.
Бельскі павет

## АГРАНАМОЎКА Ў ШЫМКАХ

Будова агранамоўкі ў Шымках, Беластоцкага павета, пачынаецца ў 1969 годзе. Як паведамілі нас у Ваяводскай радзе, гэты тэрмін будовы ўжо канчаткова зацверджаны. (ся)

---

самалёт не можа адарвацца — ён ішоў угору, колы стараглі ў гразі, сіл для ўзлёту не было. Выйсце было толькі адно — разварнуць машыну і паспрабаваць падняцца пад гару.

Але там ішлі танкі і салдаты з ліхтарыкамі.

Лётчыкі развярнулі самалёт, але ён з месца не рухаўся, таму што засела левае кола, а маторы раўлі крыўдліва і панура, і ўсё навокал гудзела адчаем; праз фюзеляж прабег лётчык, паглядзеў на колы, вылаяўся раз'юшаным матам і пабег у кабіну.

Багданаў устаў, пайшоў следам за ім у кабіну і спытаў:

— Супрацьтанкавыя ёсць?

Адзін з пілотаў павярнуўся, аглядзеў яго ўважліва і адказаў:

— Тры штукі ў скрыні. Вось тут.

Багданаў узяў доўгія гранаты, вярнуўся да сваіх людзей і сказаў:

— Падпіхайце іх, ці што... Я пастараюся тых прытрымаць.

Ён выскачыў на мокрую, халодную зямлю і пабег насустрач танкаў. Ён бег і крычаў у цемру:

— Давай назад, таварышы! Да самалёта! Папхнуць трэба! Папхнуць!

Ён увесь час крычаў гэта адно слова, бы закліканне, ён крычаў гэта тым, хто ляжаў у траве за кулямётам, тым, хто перабягаў ад дрэва да дрэва, і людзі вярталіся назад да самалёта, а ён бег насустрач выцця набліжаючыхся матораў, ён бачыў чорныя сілуэты, якія ўпарта паўзлі да пасадачнай пляцоўкі. Багданаў стаў на калені і папоўз насустрач танкаў. Ён вельмі баяўся, што нейкая шалёная куля возьме яго зараз, пакуль ён з гранатамі, і тады танкі вылезуць на пасадачную паласу, і ўсяму будзе канец. Таму ён поўз, прыліпшы да зямлі, а потым падняўся і шпурнуў гранату пад танк. Ліхтарыкі затанцавалі, траскатня аўтаматаў зрабілася вострай і бесперапыннай. Другі танк працягваў паўзці наперад. Багданаў агляну ўся: але ў цемры самалёта ён не бачыў, і ён не ведаў, што самалёт ужо пачаў разбягацца, і ён не чуў натужлівага рову яго матораў, таму што проста перад ім быў танк, і вось яшчэ хвіліна, і ён вылезе на паласу. Сцяпан кінуў другую гранату, але танк працягваў паўзці наперад. Тады Багданаў закрычаў адчайна і, прыцісну ўшы да сябе доўгае цела гранаты, кінуўся наперарэз танку. І ў самы апошні свой міг ён пачуў за спіною віск матораў і зразумеў, што самалёт адарваўся ад зямлі, хацеў адкінуць ад сябе гранату, але пакаўзнуўся, упаў, сціснуўся, пачуў востры пах нафты, адчуў побач, блізка, у метры, гарачую цеплыню металу, а потым нешта велізарнае зрабілася белым, лёгкім, вялікім, маленькім, чырвоным, вогненным.

І — ўсё.

**(Працяг будзе)**

---

# КІНО

**ПРАГРАМА на 26.IX.—1.X.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Szczęście w teczce" (jugosł.), 26 — 27. IX. „Śmierć nazywa się Engelchen" (czeski), 28 — 29. IX. „Człowiek z karabinem" (radz.), 30. IX — 1. X.

**Кляшчэлі**
„Gdy miłość przemija" (jugosł.), 26 — 27. IX. „Przepustka na ląd" (radz.), 28 — 29. IX. „Wołga-Wołga" (radz.), 30. IX — 1. X.

**Дубіны**
„Szkoła grzeszników" (czeski), „Wzgórze" (angl.), 30. IX — 1. X.

**Нараўка**
„Don Gabriel" (polski), „Trzy życzenia" (rumuński), 27. IX — 1. X.

**Нарва**
„Troje i las" (polski), „Anioł błogosławionej śmierci" (czeski), 27. IX — 1. X.

**Чыжы**
„Tomasz — oszust" (francuski), „Gdzie jest trzeci król" (polski), 27. IX — 1. X.

**Дубічы Царкоўныя**
„Gangster i urzędnik" (USA), 26 — 27. IX. „Popioły" (polski), I i II s. 28. IX — 1. X.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Sposób bycia" (polski), „Przygody Wernera Holta" (NRD), 27. IX — 1. X.

**Орля**
„Skrytobójcy" (NRD), „Ściana czarownic" (polski), 27. IX — 1. X.

**Райск**
„Ktokolwiek wie" (polski), „Towarzysze podróży" (radz.), 27. IX — 1. X.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Biedni bogacze" (węgierski), „Jutro Meksyk" (polski), 26 — 29. IX.

**Міхалова**
„Siedem niańiek" (radz.), 26 — 27. IX. „Wojenko, wojenko" (rumuński), 28 — 29. IX. „Subrina" (USA), 30. IX — 1. X.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Hasło „Odwaga" (angl.), 26 — 27. IX. „Pałace w płomieniach" (rumuński), 28 — 29. IX. „Lenin w Polsce" (polski), 30. IX — 1. X.

**Шудзялава**
„Chudy i inni" (polski), „Grek Zorba" (USA), 27. IX — 1. X.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Wołga-Wołga" (radz.), „Tyle wierności na nic" (węgierski), 27. IX — 1. X.

**Новы Двор**
„Sublokator" (polski), „Zarezerwowane dla śmierci" (NRD), 30. IX — 1. X.

**Ліпск**
„Długość pocałunku 90" (czeski), „Dwie noce jednego dnia" (jugosł.), 30. IX — 1. X.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3.

